# Ніва

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 49 (1293) ГОД XXV БЕЛАСТОК 7 СНЕЖНЯ 1980 г. ЦАНА 2 ЗЛ.


## ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

## „ДОКТАР“ І ІНШЫЯ

У зале камплект. З-пад ложка сочыцца сіняватае святло начной лямпачкі. На століках пульсуюць чалавечым жыццём кантрольныя апараты. Часам скрыпнуць дзверы — і свежы запах шпітальнага эфіру распусціць згушчанае ў зале паветра. Шчоўкне электраўключальнік, і ноч, прыжмурыўшыся ад блеску трохсотак, уцячэ за вокны. Гэта сонная маладзенькая медсястра, выконваючы загады лекара, прыйшла рабіць уколы. Заскрыпяць ложкі, пракоцяцца глыбокія ўздыхі, застогнуць цяжэй хворыя, нехта спрасонку крыкне — і зноў шчоўкне ўключальнік. Ноч мігам зацягне сваю рану. У калідоры заціхаюць дробныя крокі медсястры. Асядае ціщыня. Дыханне набірае рытмічнасці і змяняецца ў пахрапванне.

Са сну выклікае лёгкі штуршок:

— Калі ласка, тэрмометры.

За вокнамі світанак. На вёсцы даўно ўжо праспявалі пеўні.

— Ноччу быў мароз, — кажа нехта, а ўсе заглядаюцца ў акно.

— Ай-яй-яй... — сумна і цяжка паківае галавою ды, спусціўшы з ложка ногі ў доўгіх цёплых шкарпэтках, сядзе ён і заўзіраецца некуды далёка-далёка.

Звярталіся тут да яго „доктар“. Так яго называлі лекары. Прывезлі аднекуль з Сакольшчыны. Пашыраная мязджыца і аслабленае сэрца. Семдзесят адзін год. Скляроз. Некалі прыстойны і прыгожы мужчына. Сардэчны і добры твар. І вочы, вечна задумлівыя, без іскрынкі ўсмешкі.

Пасядзеўшы гэтак з паўгадзіны, зашарыць тапкамі.

— Вы адкуль? — спытае раптам, а сам, абапёршыся дзвюма рукамі на кіёк, глядзіць на цябе так, быццам бы шукаў у тваім жыцці падобнага сабе вобразу, нешта хацеў зразумець, апраўдаць. — Так, так, — паківае галавою. — А кватэра свая? У блёку... — уздыхне і прыгорблена пашорыць да наступнага ложка.

Побач быў ложак цырульніка. Узростам яны аднагодкі з „доктарам“, у знешнім выглядзе — розніца гадоў трыццаць. Смешны і вясёлы чалавек. Усё трымаў пад падушкай, і партфель з грашыма, і лыжкі, і тры нейкія крыміналы.

— Пану нельга ўставаць! — крычыць медсястра, прылавіўшы яго пры кране з вадою.

А ён, пагладзіўшы леваю рукою патыліцу лысай, як бубен, галавы, засмяецца сваёй шырокай усмешкай:

— Пані, то ж і паміраць нельга, а людзі паміраюць.

Залай ускалыхне рогат. Толькі наш „доктар“, як бы і не чуе. Не ўздрыгне ніводная маршчынка твару.

Па-суседску з цырульнікам палажылі нейкага балгара. Прывезлі з інфарктам.

— Ад нараджэння. Ну, о цяпер утраіх выпілі восем бутэлек з каласком, адну ракію і адну мастіко, — адказвае лекару на пытанне, ці п’е гарэлку.

Насупраць ляжыць шавец — як высокі, так і тоўсты. Ціхі, спакойны чалавек, які, здаецца, перапрашае ўсіх за тое, што тут ляжыць. Побач яго былы дырэктар нейкага будаўнічага прадпрыемства, чалавек, якому здаецца, што ўсіх прыгажэй і ўсіх разумней. Увасабленне эгаізму.

— Ну, устаў наш кракадзіл, — і зарагоча, разгледнуўшыся вакол, ці іншыя яго падтрымоўваюць. — Ужо паўгадзі-

(Працяг на стар. 4)



„Трыумфальная арка“. Фота Р. Сянько.

## З ТРЫВОГАЙ ЗА ЛЁС ЧАЛАВЕКА

Дарма было б шукаць у творчасці С. Рыбія пейзажу ці нейкага спакойнага спагляданння на свет (хаця вучыўся калісь на лесніка!). Шмат гадоў фасцынуе яго нязменна гісторыя і галоўны яе рухавік — чалавек, замкнуты на яго палотнішчах, з усімі добрымі якасцямі і заганамі, у рамкі глыбокіх філасофскіх роздумаў.

І таму менавіта карціны С. Рыбія не аглядаеш — іх чытаеш, як кніжку жыцця, у якой выразна напісана, што вечнае шчасце і спакой чалавека — гэта не што іншае, як ілюзія, і часта тое, што дае шчасце аднаму — прыносіць цярпенне другому. Вельмі яскравая ў гэтых адносінах карціна „Шчаслівы час“ з цыкла пра развіццё цывілізацыі „Генезіс“. Ёсць керат. На адным яго канцы сядзіць як сімвал шчасця жанчына з кветкай у руцэ. У яе завязаны вочы. Што ёй, яна шчаслівая... Пхае керат просты чалавек у абдзертых штанах, а ёй нават у галаву не прыходзіць, як яму цяжка. Шчаслівы час — але для каго? Ці можа даць шчасце чужая крыўда, радасць, збудаваная коштам другога?..

Велізарнае палатно „Трыумфальная арка“ з цыкла „Генезіс“ (4,20 на 2 метры) прыкоўвае ўвагу не з-за сваёй велічыні. Тая „трыумфальная“ арка аказваецца зусім не такой моцнай і трывалай, яна хістаецца, а з-пад яе вылазяць сотні людзей з пакутніцкімі тварамі; гэта на іх плячах збудаваны тыя трыумфы.

Цікавая асаблівасць: найбольш тут жаночых твараў. Відаць, аўтар лічыць, што жанчыне заўсёды цяжэй, што менавіта яна нясе найбольшыя кансеквенцыі.

У цыкле „Генезіс“ ёсць і цікавы твор „Нараджэнне“. З вялікай лопаючайся паверхні (нешта накшталт яечка-гіганта) не столькі нараджаецца, колькі „выбухае“ натоўп людзей са сваімі характарамі, добрымі і дрэннымі рысамі; пазней ён стане пэўнай групай, якая будзе лічыць сябе адзіным народам.

(Працяг на стар. 5)

## ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

## САЛОДКА І ГОРКА

У нядзелю Палашка пастаралася нарыхтаваць самы смачны абед, проста такі, які я найбольш люблю. Найперш паставіла яна на стол густую, духмяную капусту, вараную на бараніне, якая асталася ў нас яшчэ пасля апошняй пабыўкі гарадской часткі нашай сям’і. Затым падсунула мне пад нос глыбокую талерку з бульбянымі варэнікамі, засквараныммі смажанай грудзінкай.

Елі мы памяркоўна, не спяшаючыся, бо не было куды і да чаго спяшацца. Часам толькі перакідваліся між сабою нейкімі славечкамі, гэта значыць, гаварыла перш за ўсё мая Палашка, а я слухаў, жуючы варэнікі, якія абцякалі тлушчам. Такім чынам даведаўся я, што ад заўтра прыдзецца нам безупынку дзяжурыць пры нашай свінаматцы, якая мае ўжо апарасіцца, а свіння, вядома, як свіння, калі не дагледзіш, сама падушыць сваіх парасят. І рабую карову прыдзецца ўжо запусціць, гаварыла Палашка, бо яна таксама неўзабаве ацеліцца...

Затым ад хатніх спраў перайшла яна да спраў вясковых і гмінных, пачала расказваць, што сама пачула на жаночых сустрэчах у краме, у полі, у царкве або ў іншых месцах.

— Ведаеш, — гаварыла яна неяк так таямніча, быццам бы выяўляла вялікую дзяржаўную тайну, — будуць знімаць Язэпку, гэтага начальніка. Цяпер кантроль там праводзяць.

— Што ты кажаш?! — шчыра выказаў я сваё здзіўленне. — Гэта ж парадачны чалавек. Колькі разоў дзелень яго я сустракаў, заўсёды ён першы падаваў мне руку на прывітанне і, калі пры ім не было чужых людзей, то і па-свойму, па-сялянску гутарыў са мною...

— Так, так! Хвалі! — спыніла мяне жонка. — Не ўсё залатое, што блішчыць! Ведаеш, што зрабіў твой добры начальнік?

Не, я не ведаў, зразумела, і Палашка падрабязна пачала мне тлумачыць, як гэты начальнік зарабіў на адным трактары нейкіх сто тысяч злотых. Сапраўды, крыху гаварылі людзі ў нас аб гэтым, але ніхто гэтаму здарэнню не прыдаваў вялікага значэння, бо ўсе былі згодны ў тым, што толькі дурны чалавек адкідае ад сябе грошы, калі яны яму лезуць самі ў рукі. Калі б не ён, дык хтосьці іншы выкарыстаў бы гэтую нагоду.

Здарылася гэта нейкіх два гады таму назад. Адзін трактарыст з іхняга эскаэру разбіў па-п’янаму яшчэ цалкам новы трактар. Трактарыст памёр у бальніцы, а разбіты трактар астаўся. Тэхнічная камісія, якую ўзначальваў дырэктар мясцовага пому, прызнала, што гэты трактар не надаецца ўжо да рамонту, а прынамсі не аплоціцца раманціраваць яго на кошт эскаэру. Каб жыў няшчасны трактарыст, дык можна было б пацягнуць яшчэ з яго, а так найлепш прадаць. На шчасце, паявіўся ад-

(Працяг на стар. 4)



БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-80 Спяваюць жанчыны са Старога Корніна. Фота М. Шаховіча.

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### КАРАНІ ДРУЖБЫ

Споўнілася 20 гадоў з дня заснавання Навагрудскага аддзялення Таварыства савецка-польскай дружбы. У калгасах і саўгасах, на прадпрыемствах, у сярэдніх школах раёна дзейнічаюць пярвічныя арганізацыі таварыства. Праводзяцца лекцыі і гутаркі, інтэрнацыянальныя вечары, працуюць клубы савецка-польскай дружбы. Нядаўна аддзяленне таварыства і яго старшыня Ф. Станішэўскі ўзнагароджаны Залатымі ганаровымі знакамі галоўнага праўлення Таварыства польска-савецкай дружбы.

### БЕЛАРУСКІ КУМЫС

Новая ферма створана ў саўгасе-камбінаце „Мір“ Баранавіцкага раёна. Тут будуць атрымліваць гаючы напітак — кумыс.

Спецыяльная дэлегацыя ездзіла за вопытам у башкірскі саўгас-камбінат „Юматаўскі“, з якім баранавіцкія працаўнікі сябруюць ужо не першы год. Цяпер тутэйшыя жывёлаводы ведаюць „сакрэт“ выбару напітку. Камплектуецца статак кабыліц.

### МІНСКІ КЛУБ

Водналыжны клуб „Алімпія“ падрыхтаваў многа вопытных майстроў. Францыя, Італія, Англія, Фінляндыя — адрасы, дзе выступалі і перамагалі нашы водналыжнікі. У складзе зборнай каманды Савецкага Саюза ёсць прадстаўнікі клуба „Алімпія“ — майстры спорту СССР міжнароднага класа Г. Важнік, С. Нізоўкін, М. Амельянчык, І. Потэс, С. Кудлач, Н. Сарокіна, А. Мінянок, Л. Мазоўка.

### НОВАЯ ФАБРЫКА

У Мінску вырашана пабудаваць фабрыку каляровага друку магутнасцю ў 500 мільёнаў фарбаадбіткаў у год. На будаўніцтва аб'ектаў вытворчага і жыллёва-грамадскага прызначэння новага прадпрыемства мяркуецца выдаткаваць каля 14 мільёнаў рублёў.

### КАЛЯНДАР

**2045 гадоў назад**

8.12.65 да н.э. нар. Гарацый, рымскі паэт.

**120 гадоў назад**

12.12.1860 нар. Я. Каспровіч, польскі паэт і драматург.

**110 гадоў назад**

10.12.1870 нар. Ф. Рушчыц, польскі жывапісец. Звязаны з мастацкім жыццём Польшчы, Літвы і Беларусі.

**50 гадоў назад**

10.12.1930 нар. М. Арочка, беларускі савецкі паэт.


**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE”**

**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

Wydawca: RSW „Prasa-Książka-Ruch” Kombinat Wydawniczo-Kolportażowy w Białymstoku. Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Ogłoszenia przyjmuje: Biuro Reklam i Ogłoszeń ul. Wesołowskiego 1, 15-950 Białystok, tel. 232-41 w. 278, oraz wszystkie biura ogłoszeń RSW „Prasa-Książka-Ruch” na terenie całego kraju. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności. Prenumeratę przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch” oraz urzędy pocztowe i doręczyciele w terminach: do dnia 25 listopada na I kwartał, I półrocze i na cały rok następny; do dnia 10 poprzedzającego okres prenumeraty na pozostałe okresy roku bieżącego. Cena prenumeraty: kwartalna 26 zł, półroczna 52 zł, roczna 104 zł. Jednostki gospodarki uspołecznionej, organizacje społeczne zamawiają prenumeratę w miejscowych Oddziałach RSW „Prasa-Książka-Ruch”, w miejscowościach zaś, w których nie ma Oddziałów, w urzędach pocztowych. Czytelnicy indywidualni opłacają prenumeratę wyłącznie w urzędach pocztowych i u doręczycieli. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch” Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie, nr 1153-201045-139-11; prenumerata ta jest droższa od prenumeraty krajowej o 50% dla zleceniodawców indywidualnych i o 100% dla zlecających instytucji i zakładów pracy.

„Niwa” — PLISSN-0546-1960. Nr indeksu 36671. Zam. 1882. Nakład 7.800 I-3.




*З цікавым дакладам выступіў загадчык Кафедры беларускай філалогіі Гродзенскага універсітэта дацэнт Сяргей Кліманскі.*

# „МОСТ ПРАЗ СТАГОДДЗІ“

Пасля трохгадовага перапынку, 15 і 16 лістапада ў памяшканні Ваяводскага аддзела „РАХ“ у Беластоку адбылася чарговая сесія „Мост праз стагоддзі“, прысвечаная польска-беларускім навукова-літаратурным узаемасувязям. Арганізатары, якімі былі Клуб Саюза польскіх пісьменнікаў, Ваяводскі аддзел культуры і мастацтва ды Ваяводскі аддзел „РАХ“, прадбачылі выступленні польскіх і беларускіх вучоных ды літаратараў.

Субота, 15 лістапада. У вялікай зале збіраюцца людзі. На стале, што цягнецца амаль праз цэлае памяшканне, цесна, адна ля адной ляжаць дзесяткі кніг, прысвечаных адзначанай тэме, пачынаючы ад першага „Беларускага календара“, выдадзенага ў народнай Польшчы, аж да нядаўна выпушчанай на польскай мове „Гісторыі Беларусі“.

Прыбыўшых прывітаў Сакрат Яновіч. Падзякаваўшы арганізатарам і гасцям, прыбыўшым з Гродзенскага універсітэта, — загадчыку Кафедры беларускай філалогіі дацэнту Сяргею Кліманскаму ды навуковаму працаўніку і маладому паэту Міхасю Губернатараву, перадаў голас дакладчыкам. Першым выступіў доктар Уладзімір Стохель з Польскай Акадэміі Навук з дакладам на тэму „Польская тэматыка ў творчасці Максіма Танка“, у якім раскрыў той перыяд, калі жыццё паэта было звязана з Заходняй Беларуссю, і яго водгукі ў творчасці. Асабліва моцны націск палажыў на творы, прысвечаныя Польшчы, творы, якія былі вынікам яго падарожжаў па нашай краіне. Шырока закрануў таксама і кнігі аўтара, перакладзеныя на польскую мову.

„Пан Тадэвуш“ Адама Міцкевіча ў перакладах на беларускую мову“ — гэта чарговы даклад, з якім выступіла працаўнік Беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Зофія Скібінская. Правяла яна падрабязную характарыстыку ўсіх перакладаў гэтага твора на беларускую мову, пачынаючы ад самага першага, зробленага В. Дунін-Марцінкевічам, і канчаючы на транслятарскім наватарстве Язэпа Сяміжона.

Справу перакладу як літаратурнай творчасці закранула ў сваім выступленні Валянціна Труханоўіч з Беластоцкага філіяла Варшаўскага універсітэта, высоўваючы свае „Некалькі заўваг аб польскім перакладзе дзённікаў М. Танка“. У асноўным паказала на вялікія разбежнасці паміж перакладам і арыгіналам у некарысць першага.

Ужо кароткі перапынак быў свайго роду ўступам да дыскусіі, якая абгрунтавалася вакол даклада Зофіі Скібінскай. Тэма ў асноўным звялася да мастацкасці перакладу. Наступным, што выклікала супярэчнасць поглядаў прысутных — гэта пераклад і час. І тут усё адбывалася вакол перакладаў, зробленых В. Дунін-Марцінкевічам і Б. Тарашкевічам.

Двухгадзінны перапынак і сесія працягваецца далей. Першым выступіў Міхась Шаховіч з дакладам „Дэманічныя постаці і з'явы ў народным вераванні на стыку польска-беларускай культур“, у якім правёў характарыстыку дэманічных сіл, бытуючых у вераванні людзей Беласточчыны. Зусім новае ў сваіх выступленнях закранулі стажысткі Беларускай філалогіі Ніна Амельянюк і Тэрэза Хыляк. Першая гаварыла на тэму семантычных змен у слоўніцтве на польска-беларускім пагранічы, другая — „Уплыў польскага слоўніцтва на беларускую лексічную сістэму Баброўнік“.

Пасля дыскусіі, якая пайшла ў напрамку народнага веравання і моўных узаемаўплываў, Ірына Баравік і Янка Леанчук павялі калектыўны аўтарскі вечар, у якім, апрача мясцовых паэтаў і празаікаў — Юркі Генюша, Сакрата Яновіча, Яна Рослана, Зосі Сачко, Міхася Шаховіча і Яўгена Шульборскага, выступіў госць з Гродна Міхась Губернатараў.

Другі дзень сесіі адкрыў дацэнт Сяргей Кліманскі, які гаварыў пра блескі і цені ва ўзаемасувязях. Правёў ён аналіз супрацоўніцтва на этапах перыядаў у літаратуры. Адказваў на шматлікія пытанні, закранутыя дакладамі сваіх папярэднікаў.

Наступныя два даклады былі прысвечаны транслятарству мастацкай літаратуры. Асабліва цікава выступіў на гэтую тэму вядомы перакладчык Андрэй Цэсаж, сакратар „Przeglądu Rusycystycznego“. Падзяліўся ён сваімі ўражаннямі, прывёў шматлікія прыклады са сваёй працы.

Тэму перакладу ўзняў таксама доктар Вацлаў Шаршуновіч у выступленні „Польскія пераклады Янкі Купалы „А хто там ідзе“. Асабліва многа месца адвёў перакладу Казіміра Андрэя Яворскага. Правёў ён падрабязны параўнаўчы аналіз з перакладам на рускую мову, зробленым Максімам Горкім.

Асноўнае месца ў дыскусіі заняла тэма выдаўнічая, асабліва аўтараў, пражываючых у Польшчы і пішучых на беларускай мове. Сесію закончылі цёплыя і сардэчныя словы падзякі, выказаныя Сакратам Яновічам.

— Да сустрэчы праз тры гады, бо такі цыкл хочам надаць нашым сесіям, — закончыў на развітанне.

**М. Шаховіч**
Фота аўтара



*Выступае Андрэй Цэсаж, вядомы перакладчык з беларускай мовы.*




**Воўкушы ● Голас людоўцаў ● Купалаўцы адкрываюць заслоны ● Папараць у народнай абраднасці ● Аня ● Кніжная паліца ● Буг у агні ● Гародчык цёткі Мальвіны ● Самае асноўнае — чалавек ● З расказаў дзеда Раманчука ● Весткі з Дубіч Царкоўных, Кузавы, Ягаднікаў, Кляшчэляў, Чаромхі, Крывяціч, Бандароў, Міхалова, Юшкавага Груда ● Калі сняцца кольцы ● Песня „Dziś prawdziwych Cyganów już nie ma”.**




**Niedziela 7 XII** — 6.25 TTR. Hod. zwierz. s. III. 6.55 Mech. rol. s. III. 7.25 Nasze spokania. 7.45 Now. w domu i zagr. 8.15 Emerytury dla rolników 8.25 Telewizjada. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Reportaż film. 11.10 Czajkowski — IV Symfonia. 11.55 Dziennik. 12.15 Las dla nas. 12.45 Dla dzieci: Słonecznik — Baśń w wykonaniu teatru lalek „Groteska”. 13.25 Piórkiem i węglem. 13.50 Koncert Życzeń. 14.35 Los. Dużego Lot. 14.50 O artyście Steve'ie Poleskim z USA. 15.05 Nie mogę żyć bez muzyki — węg. kom. muz. 16.30 Filmowa opowieść o Hawanie. 16.55 Muzyka Małego Ekranu. 17.40 W świecie dzikich zwierząt. 18.05 Tele-Echo. 19.05 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.10 Henryk IV — król Francji (5). 21.10 Sportowa niedziela. 21.40 Z muzyką przez lata (6). 22.25 Teatr Małych Form.

**Poniedziałek 8 XII** — 13.30 TTR, RTSŚ — Fiz. s. I. 14.00 Chem. s. I. 15.20 NURT — Psych. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Zwierzyniec. 16.55 Klinika Zdrowego Czł. 17.15 Arsene Lupin — odc. pt. Podwójna gra. 18.10 Pr. publ. 18.40 Rolnicze rozmowy. 18.50 Dobranoc. 19.00 Echa stadionów. 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr Tel. Erskine Cadwell — Ziemia tragiczna. 21.40 Horyzont. 22.10 Dziennik. 22.25 50 lat z LOT-em — pr. rozr.

**Wtorek 9 XII** — 6.00 TTR, RTSŚ — Fiz. s. I. 6.30 Chem s. I. 9.00 Dla szkół: J. pol. kl. V. 9.55 Kl. I—III. Czerw., żółte, ziel. 13.30 TTR, RTSŚ — J. pol. s. III. 14.00 Fiz. s. III. 15.50 Pr dnia. 15.55 Obiektyw 16.15 Dziennik 16.30 Klub Seniora. 16.55 Małe Kino. 18.40 Polska Kronika Filmowa. 18.50 Dobranoc. 19.00 Skarbiec. 19.30 Dziennik. 20.10 Syberia — odc. IV. 21.35 Czy możemy się wyżywić. 22.10 Dziennik. 22.25 Mazurki H. Wieniawskiego.

**Środa 10 XII** — 6.00 TTR, RTSŚ — J. pol. s. III. 6.30 TTR, RTSŚ — Fiz. s. III. 9.00 Dla szkół: Chem. kl. VII. 9.55 Praca — technika, kl. I. 11.00 Dla szkół: kl. I. 13.30 TTR, RTSŚ — Mat. s. I. 14.00 Biol. s. I. 15.20 NURT — Mat. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Michałki. 16.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.30 Puchar UEFA. Widzew Łódź — Ipswich Town. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.10 Pół żartem, pół serio — kom. ameryk. 22.10 Dziennik. 22.25 Trybuna Literacka.

**Czwartek 11 XII** — 6.00 TTR, RTSŚ — Mat. s. I. 6.30 Biol. s. I. 8.10 Dla szkół: Zool. kl. VII. 9.00 Hist. kl. VI. 9.55 J. pol. kl. VII. 12.50 J. pol. kl. IV lic. 13.30 TTR, RTSŚ — Mat. s. III. 14.00 Biol. s. III. 15.20 Pr. dnia 15.25 Decyzje piętnastolatków. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Czwartek TDC. 17.30 Magazyn mot. 17.55 Telewizja Młodych. 18.20 Patrol. 18.50 Dobranoc. 19.00 Sonda. 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr Sensacji — M. Piestrak — Świadek oskarżenia. 21.25 Pegaz. 22.15 Dziennik. 22.30 Dwie strony medalu.

**Piątek 12 XII** — 6.00 TTR, RTSŚ — Mat. s. III. 6.30 Biol. s. III. 8.10 Dla szkół: Geogr. kl. VII. 9.55 Kl. IV. 13.30 TTR. Upr. rośl. s. I. 14.00 Hod. zwierz. s. I. 15.05 Red. szkol. zap. 15.20 NURT — Elementy wiedzy o sztuce. 15.55 Obiektyw. 16.30 Kółko graniaste. 16.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.20 Dom i my. 17.40 Tajemnica Enigmy — odc. V. 18.25 Za Koryntem. 18.40 Rolnicze rozmowy. 18.50 Dobranoc. 19.00 Lista przebojów książkowych. 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr Tel. Zabawa w koty — Istvan Orkeny. 22.00 Dziennik. 22.15 Listy o gospodarce.

**Sobota 13 XII** — 6.00 TTR — Upr. rośl. s. I. 6.30 Hod. zwierz. s. I. 13.30 Upr. rośl. s. III. 14.00 Hod. zwierz. s. III. 15.25 Pr. dnia. 15.30 Czołg bez tajemnic... 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Skakanka. 17.00 W świecie dzikich zwierząt. 17.25 Zgadnij kim jestem. 18.10 Miraże i nadzieje — rzecz o leczeniu niekonwencjonalnym. 18.50 Dobranoc. 19.00 Jesień na Podlasiu. 19.30 Dziennik. 20.10 Michał Strogow — odc. V. 21.10 Blisko i daleko. 21.45 Dziennik. 22.00 Łazuka i przyjaciele. 22.40 Droga do Saliny — franc. film fab.




**Piątek 5 XII** — 7.55 Film fab. 9.00 Koncert. 18.00 Koncert życzeń. 21.55 Pr. estrad.

**Sobota 6 XII** — 12.45 Film fab. 14.20 Nie do wiary. 17.05 Koncert. 17.55 Film fab.

**Niedziela 7 XII** — 11.45 Hokej. CSKA — Chimik. 13.15 Film fab. 14.40 Klub podróży. 15.40 Film anim. 16.00 Panorama międzynar. 17.25 Film fab. 19.35 Koncert.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05—12.25 (UKF),**




**Białowieża** Bukareszt godz. 21.30 — rum. 9—10. Dropi papa — wł. 11—12. Idealna para — USA 13—14.

**Bielsk Podl.** Człowiek w dziczy — USA 7—8. Spotkanie na Atlantyku — pol. 9—10. Cudowni mężczyźni z korbką — czes. 11—12. Z przewiązanymi oczami — hiszp. 13—14.

**Czeremcha** Przełomy Missouri — USA 9—10. Różowe sny — czes. 13—14.

**Czyże** Miłość Adeli H. — fr. Placówka — pol. 10—14.

**Gródek** Mroczny przedmiot pożądania — fr. 13—14.

**Hajnówka** Hair — USA 8—10, Piaf — fr. 11—12. Aż rozłączy nas śmierć — NRD 13—14.

**Michałowo** Gwiezdne wojny — USA 9—10. Abba — szwedz. 11—12. Pułapka na generała — jug. 13—14.

**Milejczyce** Wujaszek Marin miliarderem — rum. Constans — pol. 10—14.

**Narew** Krzyżacy — pol. Narodziny gwiazdy — USA 10—14.

**Nurzec** Król Maciuś I — pol. 9—10. Przygoda arabska — ang. 11—12. Boska Emma — czes. 13—14.

**Orla** Chłopiec z burzy — austr. Ostatni raz — USA 10—14.

**Rajsk** Porażenie prądem — węg. Anno Domini 1573 — jug. 10—14.

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ

**У НАС У ГАСЦЯХ**

**гродзенскі паэт, кіраўнік літаб'яднання „Наднёманскія галасы", якое працуе пры Гродзенскім дзяржаўным універсітэце**

## Міхась Губернатараў

* ✲ *

*Святло ў вачах дзявочых*
*І валасоў лянок —*
*Ну, хто з табой не хоча*
*Сустрэчы, Беласток!*
*Вясёлы, разнамоўны,*
*Вядзі мяне, браток.*
*На вуліцы галоўнай —*
*Мой родны гаварок.*
*Пазнаю беларуса*
*З-пад Нёмна ці Днястра.*
*І запытаць — спакуса:*
*Адкуль і ты, сястра,*
*Што падаеш гарбату*
*Таварышу і мне...*
*О як жа пахне мята*
*У роднай старане!..*
*Плыве, нібыта песня,*
*Між столікаў твой стан.*
*Другі цябе ўжо песціць —*
*Сакрат, а можа Ян...*
*У шклянцы сонца скача.*
*П'ём моцнае віно*
*За позірк твой гарачы,*
*За валасоў лянок.*

* ✲ *

*Салаўіная ноч —*
*Росы выпалі.*
*А твае валасы*
*Туман выбеліў.*
*Пахне мятаю ноч,*
*Медуніцаю.*
*Косы вымыла ты*
*Ля крыніцы.*
*Апускаецца пух*
*Матыльковы*
*На далоні твае*
*І на бровы.*
*Толькі ведае ноч*
*Ды світанне,*
*Як сышліся ў адным*
*Два дыханні.*

* ✲ *

*Гаманіла рэчка,*
*гаманіла*
*Чыстая вада.*
*У вачах глыбокіх*
*ты мяне ўтапіла —*
*Ой, бяда!*
*Да ракі насіла,*
*да ракі насіла*
*З васількоў вянкі.*
*Плынь іх завірыла,*
*плынь іх завірыла*
*ў беражкі.*
*Хмурыла ты бровы,*
*хмурыла ты бровы —*
*Сэрца не было.*
*Ды знайшоў я словы,*
*дарагія словы —*
*Адлягло.*
*Хваляю адбіла,*
*хваляю адбіла*
*Зноў на плынь вянкі.*
*Жартавала міла,*
*абдымала міла —*
*Дзве рукі!*

* ✲ *

*Снег на ліхія сосны,*
*Снег — на нашу бяду.*
*Позна, любая, позна.*
*Я ўжо не твой. Пайду.*
*Слёзы ў вачах застылі.*
*Плавае белы вальс.*
*Што мы з табой згубілі —*
*Выкажа толькі час.*
*Светлай была ты — светла*
*Век табе свой пражыць.*
*Мне ж пры сустрэчы ветла*
*Позіркам адкажы:*
*Як вы на покут селі —*
*Любы не зводзіў воч?*
*Звонкім было вяселле,*
*Казкай — шлюбная ноч?*

* ✲ *

*У час нялёгкага расстання*
*Стаіш ты ўся перада мной,*
*Такая чыстая, як ранне,*
*Світальнай выткана зарой.*
*У час нялёгкага расстання*
*Не засмуціць тваіх вачэй,*
*Дзе столькі добрых пажаданняў,*
*Святла праменнага цячэ.*
*У час нялёгкага расстання*
*Усцешна сэрцу прыгадаць*
*Тваё ласкавае прызнанне*
*З дарогі любага чакаць.*
*У час нялёгкага расстання,*
*Калі ты ўся перада мной,*
*І думкі нашы і жаданні*
*Світальнай вытканы зарой.*

**М. Губернатараў**

## ВЁСКА ЧАРОМХА Ў МІНУЛЫМ

Не слаўлю дрэва з араматам
У кветках белых нібы пух,
А толькі дзве шарэнгі хатак,
Якім адзелі з прызб кажух.

Яны стаялі, як харомы,
У сукнях з каляровых сцен,
З-пад шапак, вытканых з саломы,
Глядзелі скромна: на пляцень,

На брук каменны, на канавы,
На агароды і сады,
На рад таполяў кучаравых,
На пералесак малады.

На свірны, пуні ля дарогі,
На частаколы і хлявы,
На гнёзды буслаў даўганогіх,
На строй пры студнях вартавых.

На ўсё, што мела тады вёска,
Якую бачу сёння ў снах,
Дзе саламяная прычоска
Ляжала ўсюды на дамах.

Дзе ў сценах хат замест падлогі
Чарнеў не раз гліняны ток,
Дзе ложкам быў саннік убогі,
На рускай печы быў бярлог.

Дзе свет лучыны пад камінам,
Хоць рэдка, госцем быў не раз,
А лямпа з кнотам, з карасінам
Свяціла ў хатах доўгі час.

Такая ты была, Чаромха,
Такою помню я цябе,
Пакуль тайфун не зняў пастронкаў
І не пагнаў мой карабель...

Там першы крык маёй уцехі,
Прабіўся з-пад страхі, як звон,
І таму пачуць яго, як рэха,
Мог у сузор'і Скарпіён.

Я меў там школу першых крокаў,
Пачуццяў першых, першых слоў,
Пяшчот кахання ў шатры змроку,
Любві да ніў, садоў, лясоў.

Я там вучыўся роднай мовы,
Пазнаў там першага сябра,
Там з першых літар каляровых
Чытаў склады я з буквара.

Калыска там — майго юнацтва
У кветках радужных лугоў.
Крыніца — першага мастацтва,
Дзіцячых мар і дзіўных сноў.

Там басанож я па далінах
Шукаў загінуўшых кароў,
Тэм з лесу я насіў маліну,
Карзіны, поўныя грыбоў.

Там вынес я ў часы спякоты
Стог сена з глеістай вады,
Там лодкай аплываў балота,
З сябрамі бегаў у сады.

Там на кані я віхрам гнаўся,
Як з кветкай, з грываю ў руках,
Там па канавах я катаўся
На з дроту зробленых коньках.

Там ранкам я касіў караты,
Якія вешала раса,
А цэпам выбіваў дукаты
З калоссяў жыта ці аўса.

У фэст я, як малы патрыцый,
Адзеты ў светлую парчу,
Трымаў ў малюсенькай капліцы
Цяжкі падсвечнік і свячу.

Там я насіў канфедэратку,
Гарцэрскі гальштук і касцюм,
Там я хадзіў спяваць калядкі
Пад вокны хат, без нот, без струн.

Там я пачуў гром першай буры
І выбух бомб і свіст свінца,
Грозу ваеннай партытуры,
Змяніўшай бег майго жыцця.

Пазнаў там горкі смак нядолі
І боль варожых кайданоў.
Адтуль папаў я ў змрок няволі
За гранню родных берагоў.

Калі вярнуўся я ў шынелі
З салдацкай торбай у руках,
З даўнейшай вёскі уцалелі
Мой успамін і мроі ў снах.

Агністы змей ваеннай хмары
У попел вёску ўсю змяніў,
І страшны від пасля пажару
Маё юнацтва спапяліў.

**Д. Шатыловіч**

* ✲ *

*я б*
*і над прорвай*
*стаў,*
*калі б знаў,*
*што мяне*
*не піхнуць.*

**Юрка Трачук**

* ✲ *

Ты зноў пыталася,
як радасць можа смуціць,
як можа шчасце
перайсці ў адчай.
Ты зноў пыталася...
Ты зноў пыталася,
як вылечыць зязюлю,
каб пачала
як салавей спяваць.
А раніцай,
падаючы кашулю,
смяялася
з худога салаўя.

**Леапольд Танкевіч**

* ✲ *

Цяпер я вялікае чыстае поле
і ты ў госці да мяне не прыязджай
не знойдзеш майго сэрца — пад снегам
а па снезе ветраны балет бяжыць
што гэта за дарога ў глыбіню зямлі —
не прыязджай да мяне ў госці
я не ведаю дзе я
мае вартаўнікі заснулі — кожны ля свайго
раздзеленага на чатыры валасы
шукання праўды
я не ведаю дзе ты — чорны дым тваіх слоў
снуецца — з неба парошыць снег —
я не ведаю чаму ён белы
Цяпер я вялікае пустое поле — не прыязджай
вайна сіганула на бераг працаўніка
здалёк звоняць кастаньеты — смерць танцуе
спакушае цені на жыцці
не ажывай — не прыязджай
у мой сон серабрыстага спакою
спакою без дыхання

**Ірэна Баравік**

**СОЛЬ ЗЯМЛІ**

*Колькі ж зялёнага поту*
*За цяжкай у полі работай*
*Бацькам праліць было трэба,*
*Каб вырасціць бохан хлеба.*

*Можа таму хлеба луста,*
*Соллю пасыпана густа,*
*Халоднай паліта вадою,*
*Здавалася смачнай такою.*

**Віктар Швед**

* ✲ *

А ты лірычная такая
Мінулае прыпамінаеш
Не сон не казка ты жывая
Ёсць рамантычнасць у вачах

Мне так ёсць лёгка і так люба
Туліць набраклы прагай грудзі
Здаецца ўжо аб той забуду
Не азірнуся больш назад

Толькі з табою толькі ўперад
Бо ты красой уся заспела
І што з таго што годы дзеляць
Калі кахання ёсць працяг

**Ул. Гайдук**

## Сакрат Яновіч

* ✲ *

У садаўнічага Ганацкага, што жыве за старым дваром, не быў я з тае пары, калі з бацькам садзіў садок, яшчэ каля першай нашай хаты (на прыгыганні). Восень устаялася тады высокая і сухая, і мы куплялі ў яго яблынькаў; адну з іх памятаю, маліна́ўку. Карэнні мелі яны яснага, маладога адценку, а па галінках — колькі неапалых лісткоў з колерам тых спелых ігруш, якія называлі ў нас „бабы".

Да Ганацкіх ішлося алеяй, якая ў чымсьці нагадвала сабою лясны гасцінец у прырэчным доле, што з попахамі блізкага поплава. Найбольш было тут клёнаў; шырокая, разбарвелая ў лістападзе лістота прыдавала адчування выгратасці. У іх гушчавіне рассыпаным скарбам залатых манет бачылася бяроза. На сцежку, з пабліскамі лужынаў па-пад платамі, бруілася густое святло. Патыхала адсюль неяк мінулавечнасцю, той яе ўяўляльнай зацішэласцю, а таксама маянтковасцю, такой пасляэформеннай, калі набывалася тут, пэўна, дзесяціны (а жыд Грабш — лес пад Служкамі). Шчыт Ганацкіх відаць трохі так, як учарнелую дошку ў багоннай макрэдзіне.

Усё тое ўявілася мне нейкай ранішняй памятнасцю, калі, якраз учора, схадзіў я туды, каб накупіць асаблівага гатунку зімовак дзеля замочвання на Каляду. Вынеслі мне іх у двух кашах на бульбу, старая ўдава з дачкою. Стаялі яны на залісцелым прыганку халупкі, у нечым як ведзьма з чараўніцаю... Важылі бязменам, з бабульчынай справядлівасцю.

Я, азіраючыся на хмызы ў засаддзі, з пацярпянелаю раптам скураю дачакаўся прадажу і, лёгкімі нагамі, варочаўся дамоў, выбіраючы завулкі; на Акопах уз'еўся на мяне чорны, як смала, сабачук: набрахаў поўныя вушы. „Трэба ж было мне пайсці па тыя яблыкі!" — думаў я ад патрывожанасці.

Невядома чаго, я заскемліва злаваўся на сябе, разам з тым цьмяна здагадваючыся, што гэта можа быць той накоцісты сум, які туманцом ахутвае мінулае.

**С. Яновіч**

## ШТО СТАРЫ, ШТО МАЛЫ

Дзед Нічыпар, паказваючы чорным, кручкаватым пальцам на дзесяцігадовага ўнука, з цяжкім уздыхам гаворыць:

— Ці даўно, здаецца, было, як узважваў гэтага шмэндрыка на бязмене, а цяпер во які цяльпук — дзвюма рукамі не падымеш.

— А навошта вы яго ўзважвалі? — пытаюся.

— Ды так, дзеля забавы. Ён тады яшчэ на ўласных ножках не трымаўся — па падлозе рачком поўзаў. Усе на працу ідуць, а я — за няньку. Вось аднойчы і падумаў: давай узважу малога — цікава, а колькі ён пацягне. Дастаў з-за прыпечка бязмен, перавязаў дзіцё ручніком па жывоціку, падчапіў кручком за ручнік. Тут якраз і надарылася нечаканасць. Малы адарваўся ад кручка, перакруціўся ў паветры і — носам у падлогу.

— І што ж далей было, дзед Нічыпар?

— А нічога добрага не было. Прыйшла дачка з работы, паглядзела на распухлы нос дзіцяці і за галаву хапілася. А калі даведалася, што і як было, толькі сказала:

— Што малое, што старое — усё адно.

**Міхась Пянкрат**



— *Мой муж сам правіць усе электрычныя прылады ў доме.*

Імпартгумар

### РЫБЫ

— Пасцеражыся, — гаворыць вялікая рыба маленькай. — Бачыш — во кручок. Не ўздумай яго праглынуць.

— А чаму? — пытае рыба маленькая.

— Па дзвюх прычынах, — адказвае рыба вялікая. — Першая заключаецца ў тым, што, калі ты яго праглынеш, цябе выцягнуць, выкачаюць у муцэ і ўсмажаць на патэльні. Затым цябе з'ядуць разам з двума лісткамі ўпрыгожваючага цябе салата.

— Божа захавай! Вельмі вам удзячная. Вы выратавалі мне жыццё. Ну, а другая прычына?

— Другая прычына заключаецца ў тым, што з'есці цябе перш за ўсё хачу я...

**Джані Радары**



**СВАЁ СУМЛЕННЕ БРАЎ ЗМОРАМ.**

## НІЎКА







### ГУМАР З БАРАДОЮ

Шавец, аддаючы заказчыку новыя боты, сказаў:

— Тыдні са два вашы боты будуць крыху ціснуць. Не крыўдуйце.

— Э! Нічога, пацярплю. Два тыдні я яшчэ і ў старых пахаджу, а новыя няхай пастаяць.

### МІНІВЕРШЫ

**ЗАМЕСТ АБ'ЯВЫ**

Я бачу добра —<br>
не патрэбна оптыка.<br>
Ды як прадбачыць<br>
ход жыццёвых змен?<br>
Таму шукаю жонку я сіноптыка,<br>
Каб добра ведаць,<br>
адкуль вецер дзьме.

**Дзмітр Стойчаў**

**КІШЭННЫ ЛІХТАРЫК**

— Дачасна гінуць не хачу:<br>
Націсну кнопку — засвячу!

**Пятро Перац**

**АЦАНІЎ**

— Паслухай, Света, Толік<br>
Твой проста залаты!<br>
— Такі, як ты?<br>
— Не! Ён не алкаголік!

**Лявон Анціпенка**

**ПРЫНЦЫПОВЫ ХАБАРНІК**

Сам хабару ён не вымагае,<br>
Прынцып свой у прайдзісвета:<br>
Як даюць — шуфляду адчыняе,<br>
Кажа:<br>
— Што вы?.. Кінься гэта!

**Алесь Махнач**

З „Весніка Задрыпоніі"

**МАЛЕНЬКІЯ ХІТРАСЦІ**

Калі вы ганарысты і хочаце, каб у вас было вяселле з генералам, мару лёгка ажыццявіць, калі ўзяць у жоны генеральскую дачку.

**ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...**

...Адам і Ева не развяліся толькі таму, што іх шлюб не быў афіцыйна зарэгістраваны.

### У АПТЭЦЫ

Пакупнік: — У вас ёсць штонебудзь ад сівых валос?

Аптэкар: — Нічога, шаноўны, апрача глыбокай павагі!

**ВЫПРАВІЎ ПАМЫЛКУ**

Аднойчы маці чатырохгадовага Міколкі ўбачыла, што вусы ў кошкі сталі не такія пышныя, як раней.

— Міколка, хто гэта кошцы абрэзаў вусы? — спытала яна.

— Я...

— Навошта ж ты гэта зрабіў?

— А ці ж жанчыны з вусамі бываюць?



### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Анны Стэльнашук з Дублян змяшчаем песню Булата Акуджавы*

## Александр Сергеевич Пушкин

Былое нельзя воротить — и печалиться нечего:<br>
у каждой эпохи свои подрастают леса.<br>
А всё-таки жаль, что нельзя с Александром Сергеевичем<br>
поужинать, в „Яр" заскочить хоть на четверть часа!

Теперь нам не надо по улицам мыкаться ощупью,<br>
машины нас ждут и ракеты уносят нас в даль.<br>
А все-таки жаль, что в Москве больше нету извозчиков,<br>
хотя б одного, и не будет отныне, а жаль!

Я кланяюсь низко познания морю безбрежному,<br>
разумный свой век, многоопытный век свой любя.<br>
А всё-таки жаль, что кумиры нам снятся попрежнему,<br>
и мы иногда все холопами числим себя.

Победы свои мы ковали не зря и вынашивали.<br>
Мы все обрели — и надежную пристань, и свет.<br>
А все-таки жаль... иногда над победами нашими<br>
встают пьедесталы, которые выше побед.

Былое нельзя воротить... Выхожу я на улицу<br>
и вдруг замечаю: у самых Арбатских ворот<br>
извозчик стоит, Александр Сергеевич прогуливается...<br>
Ах, завтра наверное что-нибудь произойдет!




*Без слоў.*

## Курёзы

**ЧЫМ ВАС ПАЧАСТАВАЦЬ?**

У Парыжы выдадзена новая кулінарная кніга. У ёй 120 рэцэптаў розных страў. Так, мясныя паштэты рэкамендуецца даводзіць да гатоўнасці ў духоўцы, крывяную каўбасу тушыць у алюмініевай фальзе. На дэсерт — абсмажваць салодкія каштаны або абваляныя ў ванільным цукры тваражныя шарыкі. Назва кнігі: „Новая кухня для сабак".

**ПІСЬМЕННІК БЕЗ ЧЫТАЧОЎ**

Аказваецца, самым недрукуемым аўтарам у свеце з'яўляецца аўстраліец Біл Голд. Кніга рэкордаў Гінеса адвяла яму месца больш, чым Агаце Крысці — самай друкуемай на Захадзе пісьменніцы. Расказала пра яго і выдадзеная ў Лондане „Кніга геройчных няўдачнікаў".

Ніводзін з пятнаццаці раманаў Голда, напісаных за 24 гады працы на літаратурнай ніве, не быў выдадзены. Праўда, час ад часу яго імя з'яўляецца на старонках аўстралійскіх газет пад артыкуламі з нечаканымі ідэямі, накшталт заваднога радыёпрыёмніка, які можа спатрэбіцца пасля атамнай вайны, калі батарэйкі стануць дэфіцытам. Не знайшоўшы выдаўца для сваіх твораў ні ў Аўстраліі, ні ў ЗША, ні ў Англіі, Голд вырашыў на ўласныя грошы выпусціць свой раман, які назваў „Бестселер". Ён спрабаваў прадаць яго прахожым па вуліцах, спадарожнікам у аўтобусах і паяздах... Але яму ўдалося нагандляваць толькі на 50 цэнтаў... Але Голд не траціць надзеі. Ён вырашыў паспрабаваць сябе ў драматургіі.




**Шчырыя слёзы ў крывадушніка бываюць толькі тады, калі ён рэжа цыбулю.**